№ 165 (1728)
Чацвер, 4 верасня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +13...+15, уначы — +6...+8, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +10...+12, дождж, уначы — +9...+11, дождж; у Гродне ўдзень — +9...+11, дождж, уначы — +10...+12, дождж; у Віцебску ўдзень — +10...12, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +8...+10, дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +7...+9, дождж, уначы — +7...+9, дождж.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## З дажынкамі!

*Сельскія гаспадаркі Беларусі сабралі 5,5 мільёна тон збожжа, яшчэ 500 тысяч тон сабрана на асабістых падворках грамадзян. Пра гэта БелаПАН паведаміў учора намеснік начальніка ўпраўлення земляробства і раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання* ***Віктар КОРНЕЎ****. Паводле яго слоў, у краіне засталося ўбраць не больш за 3 працэнты плошчаў, поўнасцю закончыць уборачную кампанію плануецца да 5 верасня.*

Сярэдняя ўраджайнасць па краіне складае 27,05 цэнтнера з гектара. Найбольш высокі гэты паказчык у Гродзенскай вобласці (36,6), самы нізкі (23,6) — у Гомельскай.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Вымова першаму намесніку міністра

*Чарговы ўрадавы чыноўнік у Беларусі прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці. Пастановай Савета міністраў вымова аб'яўлена першаму намесніку міністра транспарту і камунікацый — дырэктару дэпартамента "Белаўтадар" Аляксандру Мініну.*

Вымова вынесена яму "за незабеспячэнне належнага кантролю за эфектыўным выкарыстаннем падведамаснымі арганізацыямі сродкаў рэспубліканскага дарожнага фонду пры будаўніцтве і рэканструкцыі кальцавой дарогі вакол Мінска".

Як раней паведамляў БелаПАН, падчас праверкі Камітэтам дзяржаўнага кантролю выяўлены парушэнні, дапушчаныя рэспубліканскім штабам каардынацыі работ па рэканструкцыі МКАД падчас выканання праектных работ пры выкарыстанні бюджэтных сродкаў. Падчас праверкі было ўстаноўлена прымяненне няправільных цэн і каэфіцыентаў выкарыстаных матэрыялаў, памылкі ў бухгалтарскім уліку, што прывяло да павелічэння кошту рэканструкцыі аўтадарогі. Рэспубліканскі штаб, паводле інфармацыі КДК, не забяспечыў таксама "належнае ўзаемадзеянне ўсіх маючых дачыненне да будаўніцтва праектных і будаўнічых арганізацый".

Нагадаем, што на рэканструкцыю і рамонт МКАД было затрачана больш чым 100 млн. долараў ЗША. У працах былі задзейнічаны прадпрыемствы дарожнай галіны практычна з усіх рэгіёнаў краіны.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Іван Залатарэвіч выключаны з прафсаюза

Намеснік міністра прамысловасці краіны Іван Залатарэвіч выключаны з прафсаюза. Такое рашэнне прыняў прэзідыум Савета Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці. Як паведамілі нам у прэс-службе гэтай арганізацыі, спадар Залатарэвіч выключаны з яе за невыкананне статутных абавязкаў і работу, накіраваную на развал структур прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці на прадпрыемствах галіны.

Варта нагадаць: СМІ ўжо паведамлялі пра тое, што намеснік міністра прамысловасці Іван Залатарэвіч праводзіў нарады з дырэктарамі прадпрыемстваў, каб актывізаваць іх дзейнасць па стварэнні паслухмянага ўладам прафсаюза ў галіне.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Зробіш крытычныя заўвагі. Скажуць — злачынства

*Канстытуцыйны суд Беларусі прапанаваў парламенту ўдакладніць артыкулы Крымінальнага кодэкса, якія ўстанаўліваюць адказнасць за знявагу прэзідэнта і іншых службовых асоб. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-службе суда.*

Падставай для разгляду гэтага пытання стаў зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў, у якім Канстытуцыйнаму суду прапаноўвалася даць заключэнне аб адпаведнасці Асноўнаму закону артыкулаў 367 (Паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь), 368 (Знявага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь), 369 (Знявага прадстаўніка ўлады) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

Нагадаем, што за апошнія два гады па гэтых артыкулах асуджаны журналісты Мікалай Маркевіч, Павел Мажэйка і Віктар Івашкевіч.

На думку Канстытуцыйнага суда, узнятае ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" пытанне адносіцца ў большай меры да праблемы "правільнага ўстанаўлення на практыцы прыкмет злачынства".

У сувязі з гэтым Канстытуцыйны суд рэкамендаваў унесці ў Крымінальны кодэкс дапаўненне, каб "крытычныя заўвагі, зробленыя ў адрас прадстаўніка ўлады, не звязаныя з распаўсюджваннем ілжывых, ганьбячых яго выдумак, або з наўмыснай знявагай гонару і годнасці, выказанай у непрыстойнай форме, не маглі разглядацца як злачынствы".

Адпаведны ліст накіраваны ў Нацыянальны сход Беларусі.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Праверка боем прынесла паражэнне

У межах падрыхтоўкі да першага этапу хакейнага "Еўравыкліку" зборная клубаў Беларусі правяла таварыскую сустрэчу з мінскім "Юнацтвам" і прайграла з лікам 4:5.

Нагадаем, што першы этап "Еўравыкліку" распачнецца 5 верасня ў сталіцы Латвіі. Саапернікамі беларускай зборнай стануць каманды Латвіі, Францыі і Казахстана.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Адвакат ёсць. Ці знойдуць ісціну?

*Адвакат Павел Сапелка прызнаны прадстаўніком Зінаіды Ганчар у судзе па справе Віктара Ганчара, які знік без вестак у 1999 годзе. Хадайніцтва аб прызнанні прадстаўніком пацярпелай П.Сапелкі задаволіў следчы па асоба важных справах мінскай пракуратуры Сяргей Кухаронак, якому даручана вядзенне следства па знікненні В.Ганчара і А.Красоўскага — пасля яго аднаўлення ў ліпені гэтага года.*

Як паведаміў БелаПАН П.Сапелка, пацярпелы бок мае намер паўтарыць некаторыя заяўленыя раней хадайніцтвы — такія, як допыт дадатковых сведкаў па гэтай справе, а таксама правядзенне неабходных дадатковых следчых дзеянняў.

Павел Сапелка ўжо браў удзел у якасці абаронцы ў "гучных" судовых працэсах — у крымінальных справах па "знявазе гонару і годнасці прэзідэнта" падчас прэзідэнцкіх выбараў пяццю членамі шклоўскага аддзялення незарэгістраванай арганізацыі "Зубр", па "знявазе гонару і годнасці прэзідэнта" Аксанай Новікавай, у справах аб ліквідацыі грамадскага аб'яднання "Маладзёжны хрысціянска-сацыяльны саюз" і Гродзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша", абараняў рэдактара газеты "Навінкі" Паўла Канавальчыка па справе аб абразе прэзідэнта.

**Аляксей ШЭІН.**

## Пайшло «паляванне» на таксістаў?

У Брэсцкай вобласці 2 верасня практычна ў адзін і той жа час, з 6 да 7 гадзін раніцы, былі зарэгістраваны два здарэнні, у якіх пацярпелі вадзіцелі таксі.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, першы выпадак адбыўся ў Пінску. Два мужчыны, пасажыры таксі, адмовіліся плаціць вадзіцелю за праезд. Калі таксіст запатрабаваў разлічыцца, адзін з пасажыраў дастаў нож і нанёс некалькі ўдараў у жывот вадзіцелю і яго знаёмаму. Пацярпелых даставілі ў бальніцу. Злодзеі ўжо затрыманы, яны назваліся індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

Другі выпадак зарэгістраваны ў Брэсце. Па дапамогу ў міліцыю звярнуўся 29-гадовы вадзіцель аднаго з брэсцкіх прадпрыемстваў. Ён паведаміў, што ў ноч на 2 верасня падпрацоўваў на асабістым аўтамабілі "Аўдзі-80". Два пасажыры, якіх ён вазіў амаль усю ноч, пад раніцу замест таго, каб разлічыцца, дасталі прадмет, падобны на пісталет, і, пагражаючы, запатрабавалі выйсці з машыны. Ужо ўстаноўлена, што злачынства ўчынілі два беспрацоўныя мясцовыя жыхары 20 і 19 гадоў. Яны пакуль не затрыманы, выкрадзены аўтамабіль таксама знаходзіцца ў вышуку.

Па абодвух фактах заведзены крымінальныя справы.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**ПРЭЗЕНТАЦЫЯ**

*Джордж КРОЛ:*

# «Я адчуваю сябе тут, як дома»

*Учора апоўдні Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь* ***Джордж КРОЛ*** *звычайным рэйсам нямецкай авіякампаніі "Lufthansa" прыляцеў у Мінск.*

Прама ў Нацыянальным аэрапорце "Мінск" пасол выступіў з заявай перад журналістамі. *"Шаноўнае спадарства,* — пачаў сваю прамову на беларускай мове сп.Крол *(на здымку справа). — Я вельмі рады вярнуцца зноў у Беларусь, дзе жывуць сардэчныя і працавітыя людзі. Мая асноўная мэта — будаваць і развіваць добрыя адносіны паміж амерыканскім і беларускім народамі. Нягледзячы на тое, што я ўжо тут жыў і працаваў раней, я вельмі спадзяюся больш даведацца пра вашу прыгожую краіну. Я адчуваю сябе тут, як дома!".*

Нагадаем, што тыдзень таму, як мы ўжо паведамлялі, у Вашынгтоне адбылося прывядзенне да прысягі амбасадара Крола, якую правёў дзяржсакратар ЗША Колін Паўэл. Кіраўнік амерыканскага знешнепалітычнага ведамства падкрэсліў імкненне ўрада Злучаных Штатаў "дапамагчы народу Беларусі скарыстацца палітычнымі і эканамічнымі свабодамі, якія ён з поўным правам заслугоўвае і да якіх горача імкнецца". У адказ новы пасол ЗША ў Беларусі адзначыў, *"што ў час выканання абавязкаў у Мінску спадзяецца шмат падарожнічаць па Беларусі і размаўляць непасрэдна з беларускімі людзьмі".*

Мяркуючы па ўсім, рабіць гэта будзе Джорджу Кролу не цяжка, з яго даволі добрай беларускай мовай.




Яшчэ нагадаем, што прызначаны паслом у нашу краіну Джордж Крол раней працаваў на розных дыпламатычных пасадах у Польшчы, Індыі, Савецкім Саюзе, Расіі, Украіне і Беларусі, а апошнім часам — у якасці дарадцы пасланніка па палітычных пытаннях у амбасадзе Злучаных Штатаў у Маскве (1999—2002 гг). Мае шэраг ганаровых узнагарод дзяржпэпартамента. Акрамя беларускай валодае рускай і польскай мовамі.

І яшчэ адна цікавая дэталь. Амбасадар Крол з'яўляецца адным з самых завідных жаніхоў для беларускіх дзяўчат. Ён нежанаты. У вольны час захапляецца гісторыяй, турызмам, верхавой яздой.

## Наталлі Гелах — ключы ад кватэры

3 верасня намеснік старшыні Брэсцкага гарвыканкама Аляксандр Палышэнкаў уручыў брастаўчанцы Наталлі Гелах, якая заняла другое месца (у пары з Юліяй Бічык) на чэмпіянаце свету па акадэмічным весляванні ў Італіі, ключы ад аднапакаёвай кватэры.

Як было адзначана на ўрачыстай цырымоніі, поспех на вадзе італьянскага Мілана — заслужаны і робіць гонар Брэсту.

Акрамя таго, Наталлі Гелах былі ўручаны падарункі ад брэсцкай фірмы "Вітафарм" і ўпраўлення аблвыканкама па фізкультуры і спорце.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Отказали в празднике. И детям, и партии

*Брестская городская организация Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) подала заявку в горисполком на проведение трех фестивалей "Здравствуй, школа!". Горисполком отказал в проведении фестивалей. Причем в отказе нет ни одной ссылки на Конституцию, закон, декрет или другой законодательный акт, который нарушают социал-демократы.*

Горисполком в своем отказе указывает, что при проведении подобных мероприятий необходимо обладать педагогическими знаниями и навыками. Следует напомнить, что членами БСДП (НГ) являются кандидаты и доктора наук, доценты и преподаватели университетов, техникумов, училищ, а также учителя школ. У многих за плечами десятки лет педагогического стажа.

Не выдерживает критики также тезис, что подобные мероприятия необходимо согласовывать с руководством школ и ЖЭСов. Фестивали планировалось проводить во дворах домов или на специально обустроенных площадках во внеурочное время. Кроме того, на традиционных фестивалях социал-демократов кроме школьников всегда присутствовали мамы и папы, дедушки и бабушки, дети дошкольного возраста, учащиеся училищ и техникумов, студенты.

В вину социал-демократам поставили и то, что они не предусмотрели "высокий уровень общественного порядка и безопасности". Неужели 15 дней властям не хватило для подготовки к подобным мероприятиям? Зачем мы тогда содержим за свои налоги милицию и другие службы, которые не могут обеспечить безопасность и порядок на детском празднике? И вообще, не пора ли тем же социал-демократам поставить на место зарвавшихся чиновников через суд? Скажете: суд-то в их руках. Тогда есть немало других способов. А если Белорусская социал-демократическая партия расписывается в беспомощности, тогда зачем такая партия вообще?

**Алена ДАШКЕВИЧ.**

*Ігар КУЗНЯЦОЎ:*

## «У Расіі любы вучоны, незалежна ад палітычных поглядаў, можа выдаць свой падручнік»

*Выдавецка-гандлёвая карпарацыя "Дашкоў і К" (Масква) накладам у 5 тысяч асобнікаў выпусціла падручнік "Отечественная история" для гуманітарных ВНУ, напісаны вядомым беларускім гісторыкам, дацэнтам Беларускага дзяржуніверсітэта Ігарам Кузняцовым.*

У кнізе аб'ёмам у 800 старонак на аснове расійскіх і замежных, у тым ліку і беларускіх, крыніц разглядаюцца этапы расійскай гісторыі з IX па XX стагоддзе. Асноўную ўвагу аўтар надаў асэнсаванню супярэчлівых гістарычных працэсаў у Расіі і іх сувязяў з палітыкай сумежных дзяржаў. Выданне распрацавана на аснове тэматыка-храналагічнага прынцыпу ў адпаведнасці з патрабаваннямі дзеючага дзяржаўнага стандарта Расіі для спецыяльнасці ВНУ "Гісторыя". Дапаможнік рэкамендаваны Міністэрствам адукацыі Расіі ў якасці падручніка для студэнтаў ВНУ.



У інтэрв'ю БелаПАН Ігар Кузняцоў адзначыў, што *"гэта першы навучальны дапаможнік па гісторыі Расіі беларускага аўтара, які атрымаў такі грыф Мінадукацыі краіны. Разам з тым падручнік з'яўляецца альтэрнатыўным, паколькі ў ім выкладаецца беларускі погляд на расійскую гісторыю. Акрамя таго, я спрабаваў аб'ектыўна і ўзважана разгледзець найбольш спрэчныя праблемы гісторыі краіны, у тым ліку ўзаемаадносін Расіі з Вялікім княствам Літоўскім, ВКЛ з Польскім каралеўствам у складзе Рэчы Паспалітай, а таксама беларускіх земляў з Расійскай Імперыяй пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Асаблівая ўвага надаецца савецкаму перыяду гісторыі Расіі і галоўным яго складальнікам — кастрычніцкаму перавароту 1917 года, палітычным рэпрэсіям і агульным тэндэнцыям развіцця расійскага грамадства пасля Другой сусветнай вайны",* — сказаў вучоны. Паводле яго слоў, у выданні таксама прадстаўлены сучасны погляд на цяперашнія інтэграцыйныя працэсы. *"Улічваючы, што выданне з'яўляецца аўтарскім, у ім, безумоўна, прысутнічае маё суб'ектыўнае меркаванне",* — заўважыў гісторык.

Разам з тым Ігар Кузняцоў падкрэсліў, што *"ў той час як у Беларусі ўводзіцца інстытут ідэалагічных і палітычных работнікаў, у Расіі любы вучоны, незалежна ад яго палітычных поглядаў, можа выдаць свой падручнік і атрымаць адпаведны грыф Мінадукацыі".*

**Марат ГАРАВЫ.**

## Нацбанк устанавіў курсы замежных валют на 4 верасня

На 4 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:

1 долар ЗША — 2093,00 рублі
1 еўра — 2257,41
1 расійскі рубель — 68,39
1 аўстралійскі долар — 1333,55
1 балгарскі леў — 1159,78
1 дацкая крона — 304,04
1 СДР — 2860,57
1 ісландская крона — 25,47
10 японскіх іен — 180,34
1 казахскі тэнге — 14,14
1 канадскі долар — 1501,22
1 кувейцкі дынар — 6972,13
1 кыргызскі сом — 49,18
1 латвійскі лат — 3613,92
1 літоўскі літ — 653,80
1 малдаўскі лей — 152,22
1 нарвежская крона — 274,36
1 польскі злоты — 517,72
1 сінгапурскі долар — 1191,17
10000 турэцкіх лір — 15,01
1 украінская грыўна — 392,20
1 брытанскі фунт стэрлінгаў — 3273,98
1 чэшская крона — 69,77
1 шведская крона — 246,26
1 швейцарскі франк — 1473,94
1 эстонская крона — 144,27

**АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ**

# Кадравыя «загагуліны»

**Першы прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын свае экстравагантныя кадравыя рашэнні вобразна назваў некалі "ракіровачкамі" і "загагулінамі".**

**Даўно ўжо пакінуў Барыс Мікалаевіч крамлёўскі трон, памяняліся многія палітычныя рэаліі ў свеце, а ягоная "нетрадыцыйная" практыка тасавання кіраўнікоў самага высокага эшалона ўлады, як кажуць, жыве і перамагае. Эстафету ў яго падхапіў і панёс наперад ягоны малады беларускі калега і сябра...**

**Генадзь БУРАЎКІН**

Былы наш прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі большасці тэлегледачоў, як мне здаецца, запомніўся сваімі разгубленымі і спалоханымі паводзінамі на штмаліхіх "інтэграцыйных" перамовах побач з упэўненым і статным Міхаілам Касьянавым і шкалярскім ускокваннем перад разлаваным "гаспадаром" краіны у час розных нарад і "разборак". Глядзець на ягоны пачырванелы твар з акулярамі на самым кончыку носа, на недаўменны пагляд мітуслівых вачэй было па-чалавечы шкада. Ну а як яму было не разгубіцца, калі з завоблачных вышынь улады, як удары бязлітаснага грому, гучала: "... Вы не выканалі маё распараджэнне, вы ашукалі мяне", "... К чортавай матары такі ўрад, ён нам не патрэбны"? Можа, у душы Генадзя Васільевіча і варушыўся пратэст, можа, і прасіліся ў яго з вуснаў словы нязгоды, але ці то не хапала фактаў і доказаў, ці проста не было мужчынскага характару і належнага пачуцця годнасці. Таму так і запомніўся ён — маўклівы, вінавата панылы, выцягнуты ў струнку перад гнеўным "настаўнікам". І шумная ягоная адстаўка не была ні для каго нечаканасцю, бо, калі не дужа лагічным здавалася ягонае высокае прызначэнне, дык зусім заканамерным успрымалася ягонае адлучэнне ад Дома ўрада. Закончыў сваю бясслаўную прэм'ерскую кар'еру Навіцкі дзвюма ганебнымі пастановамі — аб *ліквідацыі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа* і аб *пазбаўленні льготаў пенсіянераў з асаблівымі заслугамі перад дзяржавай.* Вось так жорстка ўзяў дый пакрыўдзіў і малых, і старых. Відаць, гэтымі чорнымі "слядамі" і застанецца ён у гісторыі маладой суверэннай Рэспублікі Беларусь...

Грамадскасць не здзівілася рашучасці свайго лідэра, спакойна і з разуменнем успрыняла ягонае крутое кадравае рашэнне. Здзівілася яна пазней, калі Навіцкі, прынародна абвінавачаны ў падмане і няўмельстве, у недысцыплінаванасці і фальсіфікацыі справаздач, воляю таго ж чалавека, што зняў яго з адказнай дзяржаўнай пасады, быў прызначаны... старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі. Вось гэта ўжо сапраўды была "загагуліна", ды і не абы якая! Службовец, што не здолеў эфектыўна кіраваць урадам, што так і не паказаў ні патрэбнай дасведчанасці, ні неабходных арганізатарскіх здольнасцей, цяпер будзе "пісаць" законы для той самай эканомікі і той самай палітыкі, якія ён відавочна "заваліў". Дай Бог яму ў гэтым поспехаў на радасць усім нам! Але нешта я ніяк не магу прыгадаць ні аналітычных артыкулаў з разумнымі сучаснымі ідэямі, ні грунтоўных даследаванняў з прапановамі рэформ і шляхоў выйсця з крызісу, падпісаных ягоным прозвішчам. Няўжо гэта ён так доўга і хітра хаваў ад нас свае бліскучыя заканатворчыя таленты?..

Не менш дзіўная "загагуліна" здарылася і з нядаўнім віцэ-прэм'ерам Аляксандрам Папковым. З тым жа трэскам, з якім адпраўлялі ў адстаўку ягонага шэфа, быў зняты з пасады і ён. Як паведамляла БЕЛТА, "адбылася замена тых, хто адарваўся ад інтарэсаў простых працаўнікоў і забыў элементарную ісціну, што за заробленае людзям трэба плаціць своечасова". У аграрным сектары, які чатыры з паловай гады курыраваў шаноўны Аляксандр Андрэевіч, ён, як адзначалася на адной з апошніх нарад у кіраўніка краіны, так і не змог навесці належны парадак. Адзінае, дзе ён праявіў сябе як найлепей, як было сказана, — гэта правядзенне славутых "Дажынак". Ці то жартам, ці ўсур'ёз нават прагучала сенсацыйная прапанова прызначыць яго афіцыйным распарадчыкам гэтага ўсебеларускага "свята ўраджаю". Было гэта, відаць, заяўлена ў палемічным запале, бо 6 жніўня Папкоў сеў у крэсла рэктара Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага універсітэта, а 18 жніўня зацверджаны першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Аб гэткім кар'ерным узлёце ён, напэўна, не марыў і ў самыя шчаслівыя свае дні: толькі што быў "лайдаком" і "фальсіфікатарам", а тут раптам стаў адной з ключавых фігур у іерархіі рэальнай улады ў Беларусі. "Весці" ён будзе кадравыя пытанні, рэгіянальную палітку, магчыма, навуку і, вядома ж, сельскую гаспадарку, дзе яму, так бы мовіць, і сцяг у рукі — не атрымалася з "тактыкай", дык можна вызначыцца ў "стратэгіі", поле дзейнасці тут неабсяжнае і дасюль толкам так і не ўзаранае. І характарыстыку пры прызначэнні Аляксандр Андрэевіч атрымаў адпаведную: і вопытны, і разважлівы, і заўсёды мае ўласную думку, і не баіцца адстойваць свае меркаванні. Можа, таму само сабою ўспомнілася ягонае мінулагодняе выказванне: "Будзем казаць так: хто гаспадар у краіне? Прэзідэнт. Была дадзена каманда, зроблены больш жорсткімі патрабаванні, забяспечаны кантроль..." Як казаў некалі адзін мудры генсек: "Правільнай дарогай ідзяце, таварышы"...

Усе гэтыя "ракіровачкі" і "загагуліны" наводзяць на вельмі сумны роздум. Ці то ўжо зусім збяднеў беларускі народ на таленты кіраўнікоў, калі на важныя дзяржаўныя пасады прызначаюць пасрэдных чыноўнікаў, нядатных да маштабнай і стваральнай працы, ці то ў гмаху на вуліцы Карла Маркса, 38 у Мінску яго насельнікі канчаткова адарваліся ад разумных сваіх суграмадзян і не ведаюць, ці баяцца яркіх і смелых асоб у сваёй Радзіме. "Выстраеныя" і вышкаленыя апошнім часам вертыкальныя "вінцікі" не могуць ужо, як аказваецца, забяспечыць састарэлай, стамлёнай бюракратычнай машыне ні добрай манеўранасці, ні надзейнага ходу. Маніпуляванне заржавелымі "запаснымі часткамі", бясконцыя прэтэнзіі "шафёра" да жорстка закручанага механізму, як паказвае шматгадовая практыка, не здольныя выруліць на магістральны бальшак зацэнтралізаваную ўшчэнт эканоміку і кансерватыўную знешнюю і ўнутраную палітыку. Патрэбны новыя падыходы, новыя прынцыпы і стымулы ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства. З безыніцыятыўнымі, хоць і адданымі і паслухмянымі, кадрамі тут нічога не зробіш. Ні "ракіровачкі", ні "загагуліны" не ўратуюць. Час дэмакратызацыі і прафесіяналізму, які даўно ўжо "стаіць на двары", вымагае зусім іншых рашэнняў і кадраў. Вось толькі ці гатовы зразумець гэта нашы самаўпэўненыя, непрадказальныя правадыры?..

*("Белорусские новости".)*

## Вучоба ў крэдыт

*З новага навучальнага года грамадзяне Беларусі могуць скарыстаць крэдыт для аплаты першай вышэйшай адукацыі, што атрымліваецца ў вышэйшых навучальных установах дзяржаўнай уласнасці на платнай аснове. Крэдыт прадастаўляецца адкрытым акцыянерным таварыствам "Ашчадны банк "Беларусбанк".*

Як паведамілі БелаПАН у ААТ "Ашчадны банк "Беларусбанк", крэдыт прадастаўляецца грамадзянам Беларусі або іх законным прадстаўнікам толькі пры наяўнасці пастаяннай крыніцы даходу. Пры гэтым сярэднямесячны сукупны даход на кожнага члена сям'і не павінен перавышаць двухразовы сярэднямесячны сярэднедушавы мінімальны спажывецкі бюджэт сям'і з 4 чалавек, падлічаны за 12 месяцаў, што папярэднічае месяцу адкрыцця крэдытнай лініі. Крэдыт прадастаўляецца ва ўстаноўленым парадку часткамі на працягу ўсяго перыяду навучання ў межах адкрытай крэдытнай лініі.

Максімальны гадавы памер крэдыту павінен складаць не больш чым 70 працэнтаў кошту навучання за год. Пры гэтым плата за карыстанне крэдытам складзе 50 працэнтаў базавай стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка. Тэрмін карыстання крэдытам падлічваецца з дня прадастаўлення яго першай часткі да поўнага выканання крэдытаатрымальнікам сваіх абавязацельстваў па пагашэнні крэдыту.

Тэрмін пагашэння крэдыту не можа перавышаць 5 гадоў з даты заканчэння навучальнай установы. Пачатак пагашэння крэдыту ўстанаўліваецца з наступнага месяца пасля заканчэння навучальнай установы. Выплата працэнтаў робіцца за фактычны час карыстання крэдытам з наступнага месяца пасля яго атрымання.

Пры адлічэнні з ВНУ крэдытаатрымальнік абавязаны вярнуць крэдыт на працягу года з дня адлічэння з выплатай працэнтаў за карыстанне ім у памеры стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка за ўвесь перыяд карыстання гэтым крэдытам.

**Вольга АСІПЕНКА.**

